# КРЫНІЦА

№2(12) люты, 2010 www.bchd.info


# БХД ПРАДСТАВІЛА СПІС КАНДЫДАТАЎ У КАМПАНІІ 2010

## *Сярод палітычных партый БХД – найбольшая па колькасці ініцыятыўных групаў!*




**БХД прадставіла спіс кандыдатаў у дэпутаты на мясцовыя выбары. У яго ўвайшлі 204 сябра і прыхільніка партыі. 90 адсоткаў тых людзей, што ўвайшлі ў спіс, вылучаюцца на мясцовых выбарах упершыню.**

Гэта адбылося 18 лютага падчас прэсавай канферэнцыі кіраўніцтва партыі, што прайшла ў Менску. Удзел у мерапрыемстве ўзялі лідэры БХД **Віталь Рымашэўскі**, **Павал Севярынец** і **Аляксей Шэін**, кіраўніца Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў **Любоў Каменева**.

Сярод прэтэндэнтаў на кандыдацтва ад партыі – сустаршыні БХД Аляксей Шэін і **Георгій Дзмітрук**, кіраўніца Магілёўскай абласной арганізацыі БХД **Таісія Кабанчук**, кіраўнік Гарадзенскай абласной арганізацыі БХД **Мікалай Баўсюк**, адказны сакратар БХД **Дзяніс Садоўскі**, Гомельскі гарадскі кіраўнік БХД **Кастусь Жукоўскі**.

Паводле Паўла Севярынца, БХД збіралася вылучаць калі 300 кандыдатаў у дэпутаты. Але ў апошнія некалькі тыдняў праводзілася маштабовая хваля ціску на магчымых кандыдатаў у дэпутаты. У выніку чаго дзесяткі хрысціянскіх дэмакартаў былі вымушаныя адмовіцца ад удзелу ў кампаніі.

Мясцовыя выбары – гэта першая кампанія БХД нацыянальнага ўзроўню. Яшчэ не мінуў год з першага Устаноўчага з’езду БХД, а партыя ўжо ўдзельнічае ў палітычнай кампаніі па ўсёй Беларусі, вядзе працу па акругах, якія ахопліваюць 2 млн. беларускіх выбаршчыкаў.

«*БХД здольная ўвасобіць надзею для беларусаў, якія чакаюць новай сілы. БХД стане альтэрнатывай сённяшняму рэжыму.*

*Для рэжыму БХД – адзіны выклік, на які Лукашэнка адказаць не ў стане. Бо ён можа адказаць на эканамічныя выклікі, на геапалітычныя выклікі, на пытанні незалежнасці, але ён не можа адказаць на пытанні маралі.*

*Беларускі рэжым не можа перастаць хлусіць.*

*Беларускі рэжым не можа перастаць красці. Бо ўлада трымаецца на тым, што адныя крадуць, а іншыя, ведаючы гэта, кампраматам трымаюць іх у падначаленні.*

*Беларускі рэжым не можа перастаць палохаць. І ў гэтым сэнсе сарцавіна кампаніі БХД – маральныя хрысціянскія каштоўнасці. Не толькі сацыяльныя пытанні, і не столькі бытавыя пытанні важныя для кандыдата ў дэпутаты ад БХД, колькі абарона вобраза і падабенства Божага ў кожным чалавеку.*

*Сённяшні рэжым ставіцца да грамадзяніна Беларусі грэбліва. Ён не паважае беларусаў, хлусіць ім, абкрадвае. І для нас самае важнае – абараніць суайчыннікаў, даць ім надзею на тое, што ў краіне з тысячагадовай хрысціянскай гісторыяй можа быць і хрысціянская культура, і хрысціянскае грамадства*




*і, ў рэшцэ рэшт, хрысціянская палітыка»*, - сказаў лідэр БХД.

Сам Павал Севярынец ўключаны ў дзесяткі ініцыятыўных групаў па Беларусі і збіраецца актыўна дапамагаць у зборы подпісаў кандыдатам ад БХД.

Як адзначыў Віталь Рымашэўскі, 204 кандыдата ў дэпутаты пры ўмове нерэгістрацыі партыі і татальнага ціску – відавочны адказ на пытанне, чаму ўлады не рэгіструюць БХД.

Паводле Рымашэўскага, у Менску вылучаецца 24 кандыдаты, закрываючы амаль палову ўсіх гарадскіх акругаў. Спіс кандыдатаў узгадняўся з партнёрамі па Беларускаму Незалежніцкаму блоку з той мэтай, каб па адной акрузе не вылучалася па некалькі кандыдатаў ад БНБ.

«Адна з мэтаў сёлетняй выбарчай кампаніі БХД – паказаць на практыцы, што БХД сапраўды – народная партыя. Мясцовыя выбары – падрыхтоўка да прэзідэнтскай кампаніі 2011 году», - сказаў сустаршыня БХД.

Як адзначыў Аляксей Шэін, «*Мы выступаем за прынцып субсідыярнасці – калі праблема мусіць вырашацца на тым узроўні, на якім яе вырашэнне найбольш эфектыўна і на якім яна ўзнікла. Лакальныя праблемы не павінны вырашацца на мясцовых узроўнях. Таму мы вылучаем шмат кандыдатаў у сельсаветах. Гэта - новы досьвед і для БХД і для ўвогуле дэмакратычнага руху Беларусі»*.

Кіраўніца Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў Любоў Каменева паведаміла, што ў агульным спісе БХД больш за 40 маладых кандыдатаў – нягледзячы на шмат прыкладаў ціску на студэнтаў-кандыдатаў, якім пагражаюць праблемамі з вучобай.

*«Мэта нашай выбарчай кампаніі – пашырыць хрысціянскую дэмакратыю сярод моладзі, а ў траўні правесці масштабны з'езд МХД. Амаль кожны кандыдат ад МХД вылучаецца па той акрузе, дзе большасць выбаршчыкаў – моладзь і студэнты»*, - сказала Любоў Каменева.

**Колькасць ініцыятыўных групаў зарэгістраваных у мясцовай кампаніі 2010 г. ад беларускіх палітычных партыяў:**

| | |
|---|---|
| БХД | **204** |
| Камуністы | **111** |
| БНФ | **71** |
| АГП | **60** |
| БСДП(Г) | **30** |
| Аграрная партыя | **25** |
| Левая партыя | **25** |
| Зялёныя | **3** |
| ЛДПБ | **2** |

*(Крыніца: БелаПАН)*



**Вярхоўны суд адмовіў заснавальнікам БХД у пазове супраць міністэрства юстыцыі. Судзьдзя *Валянціна Кулік* абвясьціла, што рашэньне Мін'юсту аб нерэгістрацыі партыі было законным.**

У залі суду прысутнічалі прадстаўнікі амбасадаў ЗША, Нямеччыны. Сустаршыні БХД абураліся, што іх не прапусьцілі ў судовую залю, хоць яны прыйшлі за дзьве хвіліны да пачатку.

# РЭЖЫМ БАІЦЦА РЭГІСТРАВАЦЬ БХД

**Віталь Рымашэўскі** пракамэнтаваў адмову Вярхоўнага суду:

«*Прысуд палітычны. Вярхоўны суд і Міністэрства юстыцыі, як і органы міліцыі, зьяўляюцца прываднымі пасамі дзяржаўнай машыны. Сёньняшні рэжым баіцца Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Літаральна гадзіну таму мы прэзэнтавалі сьпіс кандыдатаў у дэпутаты на мясцовыя выбары ад БХД больш з 200 асобаў. Не прайшло й году ад стварэньня партыі, а ў нас ужо нійбольшая колькасць ініцыятыўных груп. Гэта палохае ўлады, і таму прысуд быў прадказальны*».

Сакратар аргкамітэту БХД **Дзяніс Садоўскі** дадаў:

«*Я толькі што вярнуўся з Нарвэгіі, дзе сустракаўся зь міністрам замежных справаў. Я распавёў пра сытуацыю ў Беларусі. Я думаю, што бліжэйшым часам будзе прынятая заява міністра замежных справаў Нарвэгіі наконт рэпрэсій супраць БХД, з патрабаваньнем зарэгістраваць партыю*».

# На Віцебшчыне зарэгістраваныя 43 ініцыятыўныя групы ад БХД



*Таццяна Севярынец, кіраўніца БХД Віцебскай вобасці*

У Віцебскай вобласці зарэгістраваныя 43 ініцыятыўныя групы ад беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў. Сёння чакаюцца вынікі яшчэ двух заяваў.

15 кандыдатаў ужо збіраюць подпісы па Віцебску, па пяць – у Навалукомлі і Чашніках, чатыры - у Аршанскім раёне, тры - Міёрах, тры - у Пастаўскім раёне, тры – у Полацкім раёне, па два - у Лепелі і Глыбокім.

Сярод хрысціянскіх дэмакратаў на мясцовых выбарах вылучаюцца кіраўнік віцебскага «Дыскусійнага клуба 24» **Уладзімір Рамановіч**, дзеючы дэпутат Навалукомскага гарсавету **Сяргей Павядзёнак**, малады палітык, арганізатар канцэртаў «Супраць наркотыкаў» **Аляксей Аляксандровіч**, былы мэр горада Барань **Юры Нагорны**, вядомы лепельскі скрыпач **Алег Дыман**.

Як паведаміла кіраўніца Віцебскай абласной арганізацыі БХД **Таццяна Севярынец**, Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя вылучыла на Віцебшчыне кандыдатаў у дэпутаты болей, чым усе астатнія партыі разам узятыя. Нагадаем, актывісты БХД вылучалі свае ініцыятыўныя групы шляхам збору подпісаў.

Вынікі праведзенай за апошнія дні працы з выбаршчыкамі, паводле Таццяны Севярынец, сведчаць аб тым, што значная частка людзей увогуле не ведае, што будуць выбары, а частка – асабліва людзі сталага ўзросту, - лічыць, што пасада дэпутата прыносіць карысць толькі самому дэпутату, і ён ніяк не ўплывае на вырашэнне жыццёвых пытанняў грамадзянаў.

*- Мы тлумачым, што ўсё залежыць ад чалавека і намагаемся выкарыстаць кампанію па збору подпісаў і для данясення людзям інфармацыі пра БХД, нашыя мэты і задачы, нашыя кампаніі.*

Рэгістрацыя ўсіх заяўленых хрысціянскімі дэмакратамі ініцыятыўных групаў – гэта, хутчэй за ўсё, усяго толькі «паказуха дэмакратычнасці» перад Еўропай, лічыць рэгіянальны лідэр БХД. На этапе рэгістрацыі кандыдатаў улада пакажа свой сапраўдны твар.

# У Бабруйску зарэгістраваныя 16 ініцыятыўных групаў ад БХД



*Таісія Кабанчук, кіраўніца БХД Магілёўскай вобласці*

Усе 16 ініцыятыўных групаў хрысціянскіх дэмакратаў Бабруйску (Магілёўская вобласць) зарэгістраваныя.

Як паведаміла кіраўніца Магілёўскай абласной арганізацыі БХД **Таісія Кабанчук**, сярод патэнцыйных кандыдатаў ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі сама Таісія Карпаўна, прадпрымальнік **Вячаслаў Шэлег,** журналіст **Яўген Васьковіч,** сябра Беларускага Хельсінскага камітэту **Аляксандр Леаненка**, інжынер **Аляксандра Сьянава**. Самы малады прэтэндэнт на кандыдацтва – 18-гадовая студэнтка **Таццяна Міхалап**. Пяцёра чалавек вылучаюцца ў Магілёўскі абласны савет дэпутатаў, астатнія – ў Бабруйскі гарадскі і раённы саветы.

Нагадаем, падчас кампаніі па рэгістрацыі ініцыятыўных групаў, бабруйскія хрысціянскія дэмакраты падпалі пад моцны ціск уладаў. З-за пагрозы чыноўнікаў розных узроўнях увогуле на Магілёўшчыне змушаныя былі пакінуць дыстанцыю прыкладна траціна з планаваных спачатку на вылучэнне кандыдатаў ад БХД, кажа Таісія Кабанчук.

Дастаткова ўзгадаць толькі выпадак з Вячаславам Шэлегам. Каб не пусціць яго ў дэпутаты, мясцовыя ўлады расфарміравалі Казулічскі сельскі савет, дзе планаваў вылучацца Шэлег. Затым спрабавалі расфарміраваць ініцыятыўную групу хрысціянскага дэмакрата, прыгразіўшы звольніць з працы медсястру і санітарку, якія далі згоду збіраць подпісы дзеля вылучэння Шэлега кандыдатам у дэпутаты Кіраўскага райсавета. Затым актывіста выклікалі ў аддзел гандлю гарвыканкама, дзе паставілі перад выбарам: ідзеш на выбары ці працуеш. Сябра БХД выбраў удзел у выбарчай кампаніі.

# На Гарадзеншчыне зарэгістравана 26 ініцыятыўных групаў ад БХД



*Мікалай Баўсюк, кіраўнік БХД Гарадзенскай вобласці*

Па звестках кіраўніка Гарадзенскай абласной арганізацыі БХД **Мікалая Баўсюка**, зарэгістравана 26 з 27 ініцыятыўных групаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

Найбольш моцныя каманды хрысціянскіх дэмакратаў вылучаюцца ў Гародні, Слоніме, Мастах і Навагрудку.

Сярод патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты ад БХД у рэгіёне сам Мікалай Баўсюк, палітык з 18-гадовым стажам; дзеючы дэпутат Мастоўскага раённага савета **Зміцер Кухлей;** пастар царквы «Новае пакаленне» **Уладзімір Качагур;** асуджаны па справе «помніка Леніну» **Юрась Казак;** урач-нарколаг **Іван Бедка**.

Як паведаміў Мікалай Баўсюк, падчас рэгістрацыі гарадзенскія хрысціянскія дэмакраты сутыкнуліся з тым, што ў шэрагу акругаў нават не былі створаныя выбарчыя камісіі, або пра іхнае існаванне ніхто не ведаў. Так, у апошні дзень рэгістрацыі ініцыятыўных групаў у Даватарскай раённай акрузе Горадні ў школе, дзе павінна была дзейнічаць выбарчая камісія, прадстаўнікам Гарадзенскага БХД яе знайсці не ўдалося. У школе нават не ведалі, што яна тут павінна была быць, гэтаксама як, як і не ведалі, хто яе сябры і старшыня. Аналагічная сітуацыя адбылася ў Кастрычніцкай акрузе горада Ваўкавыска.

# Каб не дапусціць у дэпутаты сябра БХД, улады збіраюцца расфарміраваць сельсавет

**На Магілёўшчыне на сёлетнія мясцовыя выбары ўлады вырашылі змяніць тэрытарыяльны падзел на асобна ўзятыя выбарчыя акругі. Так, Казулічскі сельскі савет, дзе збіраецца вылучацца кандыдатам сябра БХД Вячаслаў Шэлег, цяпер аднесены да Клічаўскага райвыканкаму, хаця тэрытарыяльна ён заўсёды адносіўся да Кіраўскага раёну.**

Актывіст БХД, які ўжо прайшоў выбарчую кампанію 2008 году у Палату прадстаўнікоў, упэўнены, што такім чынам улады вырашылі значна ўскладніць яму падрыхтоўчую працу з выбаршчыкамі.

- *Мяне ўжо ведаюць у Кіраўскім раёне, людзі нават звяртаюцца з нейкімі канкрэтнымі просьбамі і даручэннямі. А цяпер як балатавацца ў іншы раён? Хто там мяне ведае і чым я магу дапамагчы жыхарам Клічава? Адпаведна і хто будзе галасаваць за прадстаўніка іншага раёна? Улада разлічвае на тое, што людзі не будуць галасаваць за таго, каго не ведаюць*, - кажа спадар Шэлег.

Аднак улады плануюць ісці яшчэ далей – увогуле расфарміраваць Казулічскі сельсавет. Такім чынам, кандыдата ад БХД могуць пазбавіць магчымасці трапіць калі не ў абласны ці раённы савет, дык нават у сельскі савет Казулічаў.

- *Рашэнне яшчэ не прынятае, але яно разглядаецца. І хутчэй за ўсё, Казулічскага сельсавета больш не будзе, нягледзячы на тое, што большасць з 1.400 яго жыхароў – супраць.*

Між тым Вячаслаў Шэлег не здаецца.

- *Я ўсё роўна буду балатавацца. Чым больш ставяць палак у колы, тым мацней становішся, мабілізуешся нават. Вось цяпер з калегамі прапрацоўваем новыя тактыкі працы з выбаршчыкамі*, - адзначыў Вячаслаў Шэлег.



А ўжо праз тыдзень, актывіста выклікалі ў аддзел гандлю гарвыканкама. **Зінаіда Луніхіна** - намеснік начальніка ўпраўлення гандлю паведаміла, што запрасіла яго па заданні намесніка старшыні гарвыканкама - **Міхаіла Кавалевіча**. Падчас гутаркі чыноўніца паставіла Вячаслава Шэлега перад выбарам: ідзеш на выбары ці працуеш.

- *Я сказаў Зінаідзе Луніхінай, што фірму сваю закрываю і распрадаю, - а я з'яўляюся пакуль дырэктарам фірмы, а прадпрымальніцкую дзейнасць зачыніў яшчэ ў студзені. Таму на яе пытанне, што я выбіраю, я адказаў - выбары! Якім чынам яны змаглі б паўплываць на маю працу, калі б мая фірма не закрывалася, не ведаю, бо на гэтым наша размова скончылася*, - распавёў Вячаслаў Шэлег.

# У Менску зарэгістравалі 24 ініцыятыўныя групы хрысціянскіх дэмакратаў

Усе 24 заявы аб рэгістрацыі ініцыятыўных групаў па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Менскага гарсавету ад сталічнай арганізацыі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі задаволеныя.

Сярод прэтэндэнтаў на кандыдацтва адказны сакратар БХД **Дзяніс Садоўскі**, каардынатарка кампаніі «Пакаянне» **Валерыя Чарнаморцава**, прадпрымальнік **Леанід Скарабагаты**, самая маладая кандыдатка ад БХД 18-гадовая студэнтка **Ірына Губская,** лідэр Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў **Любоў Каменева,** праграмайстар, перакладчык на беларускую мову Google і Facebook **Сяргей Чарнавокі,** драматург і паэтка **Галіна Каржанеўская** і іншыя.

# Сябра БХД збіраецца балатавацца ў чатыры саветы дэпутатаў

Сябра БХД з Капыля **Віктар Віктаравіч Дашкевіч** зарэгістраваў чатыры ініцыятыўныя групы па збору подпісаў. Актывіст збіраецца балатавацца ў Менскі абласны і Капыльскі раённы савет, а таксама ў дзве акругі па Вялікараёнскаму сельсавету.

Віктар Дашкевіч – кандыдат з вялікім вопытам. Тры разы ён балатаваўся ў мясцовыя саветы, аднойчы – у Палату прадстаўнікоў, неаднаразова выступаў назіральнікам на выбарах.

*- Усю гэтую кухню я ведаю дасканальна і адназначна магу сказаць: сапраўдных выбараў у Беларусі няма. Усе дэпутаты прызначаныя. Кожны раз, як я балатаваўся – быў лішні. На кожнай акрузе па аднаму кандыдату, а на маёй – два. Заўсёды ў піку мне прызначаюць некага.*

Вось і гэтам разам тая ж сітуацыя, распавядае актывіст.

*- На 24 раённыя акругі зарэгістравана 25 ініцыятыўных групаў. Ясна, што мая лішняя. А ў сельскі савет на 12 акругаў – 14 ініцыятыўных групаў. Тут лішнія мае две.*

Супрацьпаставілі ўлады Дашкевічу на мандат у сельсавет старшыню мясцовай гаспадаркі ды эксдырэктарку школы.

Віктар Дашкевіч прадчувае, што збіраць подпісы сёлета будзе асабліва цяжка.

*- Пануе атмасфера 37-га году. Толькі людзей душаць па-ціхаму. Людзі баяцца ўсяго. Не тое, што ўвайсці ў ініцыятыўную групу, нават подпіс паставіць свой. Пенсіянеры баяцца. Кажуць: не за сябе, за дзяцей сваіх.*

*- Я сам пенсіянер*, - кажа спадар Віктар, - *але хоць і білі мяне маральна неаднаразова, змагацца буду.Шанец на праўду ёсць заўсёды*.



# Таццяна Шамбалава з Магілёўшчыны ўжо сабрала подпісы выбаршчыкаў

**20 лютага сябра Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі з Магілёўскай вобласці Таццяна Шамбалава падала ў выбарчую камісію спіс з 25 падпісаных за яе выбаршчыкаў. Таццяна Шамбалава збіраецца балатавацца ў Княжацкі сельсавет Магілёўскага раёну.**

Ініцыятыўную групу актывістка БХД зарэгістравала 17 лютага, а подпісы сабрала за адзін дзень. У выбарчай камісіі ні да яе, ні да сябраў ініцыятыўнай групы пакуль пытанняў не было, кажа Таццяна Шамбалава.

Паводле Шамбалавай, людзі падчас збору подпісаў выказвалі моцны недавер уладам. Шмат хто казаў, што ўвогуле не збіраецца на выбары, бо не верыць ніводнаму дэпутату.

# ДВУ



Вядучая «Двубою»
Ірына ГУБСКАЯ

***Дарагія чытачы!***
***Прапануем Вашай увазе ДВУБОЙ. Кожны нумар газэты два лідэры БХД спрачаюцца па найбольш вострых і важных пытаньнях палітыкі і грамадзкага жыцьця: змаганьне з алькагалізмам і абортамі, стасункі з ЕС, Расеяй, NATO, будаўніцтва АЭС, сьмяротнае пакараньне.***
***Пераможцу вызначыце Вы!***



*Кіраўніца Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў*

## Любоў Каменева:

**«Каштоўнасці – гэта стратэгія, вырашэнне праблем усяго толькі тактыка»**

Пачнем з таго, што само слова «праблемы» мае негатыўны падтэкст. І для передвыбарчай кампаніі дасведчаныя паліттэхнолагі раяць выкарыстоўваць гэтае слова як мага радзей, ці замяніць яго на больш нейтральнае - «пытанні». Гэта псіхалагічныя фактары, якія вельмі важныя пры перакананні людзей.

Вы ніколі не задаваліся пытаннем, чаму моцныя лідэры не гаворацьпра праблемы, а гавораць пра каштоўнасці: моцнае мясцовае самакіраванне, моцная краіна, моцны народ? Гэта стратэгія, а вырашэнне праблем – усяго толькі тактыка. Напрыклад, я дбаю пра нашу краіну, я хачу, каб яна была моцнай, а на шляху да гэтага нам патрэбна вырашыць наступныя пытанні... Гэта псіхалагічны падыход да людзей. Яны становяцца тваёй камандай, калі бачаць, што ты глядзіш далей.

Выбары – гэта выбар паміж прадстаўнікамі розных каштоўнасных нормаў. Кожны з прэтэндэнтаў прапануе рашэнне пытанняў. У залежнасці ад каштоўнаснае сістэмы электарату, рашэнне прымаецца ў карысць таго ці іншага прэтэндэнта.

Кожны кандыдат прапануе рашэнне праблем, і гэта само сабой маецца на ўвазе. Але розніца толькі ў тым, на якой сістэме каштоўнасцяў заснаваныя прапановы кандыдата, адсюль: ці можна яму верыць, ці апраўдае ён давер у будучыні.

З іншага погляду, у сенняшніх умовах, нажаль, перамагчы на выбарах – нават на мясцовых – выключна складана. Мінулыя выбары у мясцовыя саветы добра адлюстроўваюць гэтую тэндэнцыю: з больш як 22 тысяч (!) акругаў мясцовых саветаў толькі на 14 перамаглі дэмакратычныя кандыдаты. А калі чалавек абяцае вырашыць пэўныя праблемы-пытанні, а пасля не вырашае іх, то гэта вельмі негатыўна сказваецца на даверы выбаршчыкаў. І калі гэты чалавек балатуецца на наступных выбарах, то невыкананыя абяцанні цягнуцца за кандыдатам у дэпутаты і падмочваюць рэпутацыю. Калі казаць пра праўладных кандыдатаў у дэпутаты, то яны у сваіх «заслугах» могуць называць нават тыя справы, якія яны робяць толькі таму, што гэта іх праца. Мы ж не можам вырашыць некаторыя пытанні толькі таму, што не маем такіх магчымасцяў. Напрыклад, як я магу вырашыць праблему працеку дахаў ці затаплення двара падчас вясенняга таяння снегу, калі я не дэпутат мясцовага савету? Збор подпісаў, як паказвае практыка, нажаль, пакуль малаэфектыўны. А дэпутат мясцовага савету можа падымаць гэта пытанне на паседжаннях, пісаць запыты і так далей. Што казаць – які б ня быў, а ўжо чыноўнік!

Калі ж мы нясем каштоўнасці у сабе, у сваіх дзеяннях і сваіх прапановах, мы іх нясем да канца. Нават калі не атрымалі мандат дэпутата савета, мы працягваем сваю дзейнасць. І выбаршчыкі ацэньваюць не тое, што мы паабяцалі, а не зрабілі (у прычынах людзі не любяць разбірацца), а тое што мы прапаноўваем і становяцца як мінімум нашамі прыхільнікамі. А гэта павышае нашыя шанцы на перамогу у будучым.

Выкарыстанне тэмы каштоўнасцяў у передвыбарчай кампаніі – стратэгія. Яна пакажа выбаршчыку, што кандыдат мае бачанне, прынцыпы, і будзе дзейнічаць у адпаведнасці з імі. Чалавек, які кажа толькі пра праблемы, і вырашае толькі праблемы, як паказвае практыка, нажаль, не мае даўгатэрміновай і масавай падтрымкі.

# Б О Й

***Вы можаце прагаласаваць за ўдзельніка, якога падтрымліваеце, праз тэлефон - +8 029 572 94 84, sms, e-mail: bchd.info@gmail.com, праз сайт: www.bchd.info, ці пошту: 220123, г. Мінск, а/с 324. (Проста пазначце прозьвішча – за каго аддаеце Ваш голас).***

***Таксама прымаюцца заяўкі на ўдзел у ДВУБОІ.***

**Пытанне:**

***«Мясцовая передвыбарчая кампанія: больш актуальна прапаноўваць выбаршчыкам каштоўнасці ці вырашэнне мясцовых праблем?»***

*Каардынатар Берасцейскай абласной БХД*

## Зміцер Шурхай:

**«Свая кашуля бліжэй да скуры»**



Я лічу, што на мясцовых выбарах трэба у першую чаргу казаць пра праблемы. У сенняшніх умовах, нажаль, выбаршчыка больш хвалюе пытанне адсутнасці парковак, недахопу дзіцячых пляцовак, дрэная праца ЖКГ ... І калі кандыдат у дэпутаты падымае гэтыя праблемы, то выбаршчык бачыць перад сабой абаронцу, чалавека, як можа яму дапамагчы. Гэта не чыноўнікі, якія займаюць адначасова пасады у выканкамах і балатуюцца на выбарах, успамінаючы пра выбаршчыкаў толькі напярэдні передвыбарчай гонкі. Гэта людзі з простага народу, якія маюць такія ж праблемы. Маральныя пытанні, пытанні каштоўнасныя, нажаль, не вырашаюць праблемы надзенныя.

Узгадваецца біблейская прытча, калі адно зерне ўпала на ўрадлівую глебу, другое – на камяністую, а трэцяе пры дарозе. Дык вось, зерне нашай беларускай маралі ўпала на камяністую глебу і, як у прытчы, амаль загінула. Нажаль, чалавек, які павінны узрошчваць нашую мараль, наадварот, руйнуе яе. І людзі, гледзячы на наша тэлебачанне, на наша наваколле перастаюць верыць у мараль і маральныя каштоўнасці. Мне, як веруючаму чалавеку, як хрысціяніну, вельмі цяжка канстатаваць гэты факт. Але гэта есць фактам, і ад яго нікуды не дзенешся. «Сустракаюць па адзенні, а праважаюць па розуму», - кажа знакамітая прымаўка. Дык вось гэтае самае «адзенне» сення – тое, што мы можам прапанаваць канкрэтна – па кожным пытанні і па кожнай праблеме, а «праважаюць па розуму» – гэта ўжо пра тое, што мы можам прапанаваць людзям, у першую чаргу гэта рэчы каштоўнаснага кшталту. Таму я лічу, што каштоўнасці трэба прапаноўваць крыху пазней, калі мы адкажам на пытанні нашых выбаршчыкаў.

Нажаль, мы не можам гарантаваць вырашэнне ўсіх праблем, бо многія з іх мы не можам вырашыць, бо не маем магчымасцяў да іх вырашэння: хоць шмат якія кандыдаты у дэпутаты абяцаюць выправіць працу ЖКГ ці вырашыць праблему дарог, пасля не могуць яе вырашыць. А кандыдаты ад ўлады наадварот: спачатку у свае праграмы уключаюць рэчы, якія плануюцца заранеей, а пасля кажуць што ўсе выканалі, як і абяцалі.

У сваёй передвыбарчай праграме мы, канешне, абавязкова будзем падымаць пытанні каштоўнасныя, але акцэнт усе роўна будзем ставіць на тое, што менавіта мы, прадстаўнікі народу, зможам вырашыць пытанні выбаршчыкаў.

І яшчэ. Мне падаецца, што пытанні каштоўнасцей больш актуальна падымаць падчас парламенцкай кампаніі, бо менавіта на парламенцкім узроўні падымаюцца пытанні светапогляду. І таму больш актуальна, мне здаецца, што пытанні каштоўнасцяў раскрываць падчас парламенцкай кампаніі. На мясцовай кампаніі людзей больш цікавяць пытанні надзенныя.

«Свая кашуля бліжэй да скуры», – кажа прымаўка. У беларускіх рэаліях гэта гэта сапраўды так. Чалавека цяжка пераконваць у пытаннях высокіх каштоўнасцяў, калі ў яго працякае дах ці пасля дажджу нельга дайсці дахаты. Таму я ўпэўнены, што на мясцовых выбарах трэба падымаць канкрэтныя мясцовыя пытанні.

***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Сёньня ў нашай рубрыцы мы прадстаўляем праект «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ». У кожным нумары газэты мы будзем друкаваць матар'ялы пра найвялікшых беларусаў і беларусак. Мэта: выбраць Імя Беларусі – асобу, што выяўляе нашу Радзіму найпаўней. Пачалі мы з Эўфрасіньні Полацкай, беларускай сьвятой. Атрымальнікі нашай паштовай рассылкі пазначылі, пра каго б яны хацелі прачытаць у «Крыніцы»: найбольш галасоў набралі Францішак Скарына (22), Кастусь Каліноўскі (18), Янка Купала (18), Васіль Быкаў (17), Вітаўт (17), Міхал Клеафас Агінскі (16), Максім Багдановіч (15), Уладзімір Караткевіч (14), Леў Сапега (14), Мікалай Радзівіл Чорны (12). Запрашаем і вас удзельнічаць у праекце – дасылаць свае тэксты і меркаваньні. Сеньня мы прадстаўляем* **МІХАЛА КЛЕАФАСА АГІНСКАГА**.

***Абярэм Імя Беларусі разам!***



# МІХАЛ КЛЕАФАС АГІНСКІ

Гэта ён, той самы Агінскі.

Памятаеце, ля-мінор:

мі – рэ – мі – фа – мі – до – до – сі – ля...

Міхал Клеафас Агінскі з магнацкага роду Агінскіх, што займалі найважнейшыя дзяржаўныя пасады ў ВКЛ і збудавалі знакаміты канал. Геніяльны кампазытар, дыплямат, змагар за незалежнасьць. Аўтар Праекту «ВКЛ- 1811», музыкі польскага гімну й сусьветна вядомага палянэзу «Разьвітаньне з Радзімай».

Музыка, у якую Агінскі ўклаў усю душу – ягоны ўласны вобраз. Прывід эпохі. Палянэз ля мінор: само «Разьвітаньне з Радзімай « у чалавечым абліччы.

Палянэз, бо гэта быў век паланізацыі. Большасьць беларускай шляхты й магнатэрыі пачуваліся правінцыяламі Рэчы Паспалітай. Панавалі каталіцызм, лаціна ды польская мова. Палянэз «Разьвітаньне з Радзімай» – так для ВКЛ называецца ўсё XVIII стагодзьдзе. Змагаючыся за Вялікую Літву, Агінскі змагаўся і за Вялікую Польшчу. Падскарбі вялікі літоўскі, ён падтрымаў Канстытуцыю 3 траўня і стаў адным з правадыроў паўстаньня Касьцюшкі. Ахвяраваў на барацьбу з захопнікамі 190 тысячаў злотых асабістых грошай. Сам, цывільны, на чале атраду стральцоў у 480 чалавек рабіў рэйды супраць расейскага войска. Тут, у паходах, і нарадзіліся ягоныя знакамітыя гімнавыя маршы: «Марш паўстанцаў», «Марш-марш Дамброўскі», «Яшчэ Польска не згінэла».

Палянэз ля-мінор. Мэлёдыя вялікае трагедыі. Агінскі быў Асобай самых страшных часоў новазапаветнай гісторыі Беларусі – мяжы XVIII і XIX стагодзьдзяў. Рэч Паспалітая дэградавала. Яе, бездапаможную, рвалі на часткі тры імпэрыі. Нацыя гінула. Вы толькі паслухайце, як было балюча Агінскаму !.. Але мэлёдыя жалю й суму гучала высакародна, моцна, адухоўлена.

Гэта было разьвітаньне з Радзімай.

Чуеце Агінскага – як гэта: пражыць усё жыцьцё, разьвітваючыся з Радзімай... Надзвычайны амбасадар у Галяндыі, дзяржаўны дзеяч, айчыну якога дзялілі акупанты, сэнатар у чужое Расеі і, нарэшце, эмігрант з эўрапейскай вядомасьцю ў Італіі. Толькі сярод паўстанцаў у беларускіх лясах ды родавым Залесьсі ля Смаргоняў, цудоўным спадчынным маёнтку, ён быў дома – у чаканьні чарговага расстаньня. Адлучанасьць, адчужджанасьць – скрыпічная, адчайная і настолькі настальгічная!

Агінскі, адзін з апошніх лідэраў Вялікае Літвы, спрабаваў адзінаасобна адрадзіць дзяржаву. У 1811 г ён падае Аляксандру І праект: 8 губерніяў і дзьве акругі аб'ядноўваюцца ў Вялікае Герцагства Літоўскае з цэнтрам у Вільні. Вось ён, астатні акорд сярэднявечнай велічы! Імпэрыя была ў шоку ад гэтае дзёрзкасьці: з ВКЛ ужо разьвіталіся. Але радзіма Агінскага ўсё-такі ўваскрэсла – як Беларусь.



«Разьвітаньне з Радзімай» – сусьветны шэдэўр настальгіі й адна з самых пранізьлівых нотаў беларускай нацыянальнай ідэі.

Сёньня, калі палова беларусаў хоча выехаць з гэтае краіны куды падалей, калі эмігранты ўжо не спадзяюцца вярнуцца, калі нацыянальная сьвядомасьць, беларуская мова і незалежнасьць трымаюцца адно Божай воляю – «Палянэз Агінскага» месяцамі займае першае месца ў хіт-парадах FM. Мы вельмі баімся страціць Беларусь. А значыць, Беларусь жыве.

Вечны палянэз, дух Агінскага, шчыміць сэрцы й рвецца да далёкае Радзімы.

«Кліча да сябе, бо немагчыма з гэтым краем разьвітацца!»

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# «Беларусь павінна быць беларускай»

**У красавіку пройдуць выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў, куды будуць прасоўваць свае кандыдатуры прадстаўнікі дзяржаўных і апазіцыйных структур. Усе яны з’яўляюцца лідэрамі.**

**Хто такі лідэр? Якімі катэгорыямі павінен кіравацца чалавек, каб быць сапраўдным лідэрам? За адказам на гэтыя пытанні я звярнулася да дэпутата Мастоўскага раённага савета, сябра аргкамітэта БХД, мясцовага лідэра Зміцера Кухлея.**

Зміцер прапанаваў некалькі галоўных катэгорый, без якіх немагчыма трымаць лідэрства, і даў ім уласную характарыстыку.

**Абавязак** – тое, што запланаваў, паабяцаў і абавязкова павінен зрабіць, нягледзячы ні на якія іншыя ўмовы. Ёсць яшчэ абавязкі перад людзьмі, з якімі супрацоўнічаеш і якія з’яўляюцца сябрамі тваёй каманды. Гэтыя людзі павінны бачыць цябе як лідэра, які сапраўды выконвае свае абяцанні.

**Беларусь** – краіна, у якую я сапраўды закаханы, і якая будзе нарэшце такой, якой яна мне мроіцца – сапраўды беларускай Беларуссю, якая не будзе залежаць ад іншых краін, дзе нацыянальнай мовай будзе беларуская, дзе будуць улічаны беларускія нацыянальныя інтарэсы і дзе грамадзяне будуць адказнымі людзьмі, якія не баяцца выказаць сваё меркаванне і выконваюць свае грамадзянскія абавязкі.

**Вера** – тое, што натхняе на дзейнасць, у тым ліку і палітычную. Гэта ўнутранае пачуццё, якое ў цяжкія моманты дапамагае бачыць будучыню, пачуццё, дзякуючы якому не здаешся.

**Годнасць** – пачуццё абавязку перад сваёй Радзімай, якое прымушае несці адказнасць за свае словы, прымушае дзейнічаць і імкнуцца зрабіць нашу краіну сапраўды беларускай.

**Дэмакратыя** – улада народа, якая не парушае правы іншых людзей і абараняе іх.

**Еднасць** падобна да каманднай гульні, калі мы штосьці робім разам, і я адказваю не толькі за сябе, а за іншых людзей, якім штосьці прапанаваў зрабіць і яны далучыліся, Еднасць – гэта тады, калі мы адчуваем абавязкі адзін перад адным.

**Жыццё** – гэта шлях, які павінен прайсці кожны чалавек, і павінен прайсці яго годна. Годнае жыццё – гэта калі ў цябе ёсць унутранае задавальненне ад пражытага.

**Змаганне** – гэта штодзённасць. Чалавек заўсёды з чымсьці змагаецца, асабліва калі ён не ўбудаваны ў сённяшнюю сістэму ўлады.

**Лідэр** – чалавек, катораму давяраюць людзі, якія знаходзяцца вакол яго. Яны бачаць з гэтым чалавекам сваю будучыню, ідуць за ім, прымаюць супольныя рашэнні і разам з тым падпарадкоўваюцца накірункам, якія вызначае лідэр, давяраюць ім.

**Мова** – гэта тое ўнікальнае, што мае кожны народ, кожная нацыя. І беларускі народ не выключэнне. Аднак не ўсе людзі разумеюць каштоўнасць роднай мовы, таму на сённяшні дзень беларуская мова, на жаль, не займае належнага месца ў грамадстве.

Я доўга і паступова ішоў да беларускай мовы і на сённяшні дзень разумею, што гэта адна з самых галоўных каштоўнасцяў, якую варта адрадзіць. Я проста закаханы ў беларускую мову. Мне падабаецца на ёй размаўляць, і я атрымліваю ад гэтага асалоду.

**Надзея** заўсёды ідзе ў звязку з верай. Гэта тое, што дапамагае чалавеку перажыць цяжкія часы. Калі не ўсё ўдаецца, тады спрацоўвае надзея на лепшае.

**Перамога**: галоўнае – ўнутраная перамога над сваімі слабасцямі. Калі чалавек пераможа гэтыя слабасці ўнутры сябе, тады ён зможа перамагчы і гэты свет, здзейсніць штосьці ў ім, змяніць.

**Радзіма** – гэта прыналежнасць да свайго краю, любоў да гісторыі гэтага краю, да людзей, якія жылі тут і далі шмат не толькі Беларусі, але і ўсяму свету. Для мяне яшчэ і мая малая радзіма – Мастоўшчына, наша Панямонне.



*Зміцер Кухлей, кіраўнік БХД Мастоў*

**Свабода** – магчымасць дзейнічаць, як ты пажадаеш, пры гэтым не парушаючы правоў іншых людзей, не выходзячы за пэўныя рамкі. Свабода – гэта самавыяўленне, творчасць і адсутнасць страху ці боязні.

**Чэснасць** – вельмі істотная рыса кожнага палітыка, непасрэдна звязана з даверам. Калі чалавек сумленны, тады яму давяраюць людзі, тады грамадства будзе развівацца.

**Шчасце** – гэта тады, калі яно здараецца кожны дзень, калі чалавек не задумваецца, шчаслівы ён ці не, калі бачыць вакол сябе такіх самых шчаслівых людзей.

**Якасць** – паказчык палітычнай дзейнасці, у прыватнасці БХД. Паказчык таго, наколькі змяняецца наша грамадства, наколькі нашы ідэалы эфектыўна ўздзейнічаюць на людзей і як шмат людзей далучаюцца да прасоўвання нашых ідэяў. Гэта наўпрост залежыць і ад якасці той дзейнасці, якую мы праводзім, таму што ідэі і ідэалы могуць быць бездакорнымі, але цяжкасць заключаецца ў тым, якім чынам данесці іх да людзей.

**Ірына Паўлюкевіч**



Уладзімір Качагур, пастар

# Пастар – кандыдат

Прыемна, калі побач са старымі «дасведчанымі» палітыкамі з’яўляюцца новыя абліччы.Тым больш прыемна, калі гэта людзі хрысціянскай свядомасці. Мы вырашылі паразмаўляць з Уладзімірам Качагурам з Навагрудка: ён – пастар царквы, актывіст партыі БХД.

**Уладзімір, чаму вы вырашылі пайсці ў палітыку?**

Бо я добра ведаю адзін біблійны прынцып, апісаны ў Ев. Марка 10:42-44 *«А хто хоча быць большым, хай будзе вам слугою.»* Быць у палітыцы – гэта значыць быць слугой для свайго народу. А як праведнік, веруючы ў Бога, упэўнены, што ў мяне атрымаецца паслужыць людзям.

**Якія мясцовыя праблемы лічыце самымі актуальнымі?**

Самай актуальнай праблемай з’яўляецца аддаленасць улады ад народа. Людзі часам у твар ніколі не бачылі свайго дэпутата і гэта праблема. Я думаю, што галоўнае – быць блізкім да людзей і ведаць, што іх хвалюе. А калі ёсць кантакт з людзьмі, мясцовыя праблемы становяцца вырашальнымі.

**Што для вас Радзіма?**

Гэта не проста край, дзе я нарадзіўся. Гэта краіна, дзе я магу жыць, не хвалюючыся, што заўтра нейкі нягоднік можа сапсаваць мне жыццё і застацца беспакараным. Радзіма – гэта краіна, якая будзе бараніць твае інтарэсы.

**Якую ролю вера грае ў вашым жыцці?**

Вера ў Бога – гэто самае галоўнае, што можа быць у чалавека. Вера ў Бога дапамагае абсалютна ва ўсім – без выключэння. Таму вера ў маім жыцці заўсёды на першых ролях, заўсёды ў кадры.

**Вы сямейны чалавек?**

Так. Дарэчы, мая жонка – таксама кандыдат у дэпутаты ад БХД.

**Ці не баіцеся ціску з боку ўладаў?**

Да хопіць ужо баяцца. Страх стамляе. *«Дасканалая любоў выганяе ўсялякі страх»* – так кажа Біблія.

# «Выбаршчыкам патрэбныя маладыя і разумныя»

21 лютага пачаўся актыўны збор подпісаў за вылучэнне кандыдатам ў дэпутаты ў Віцебскі гарадскі савет сябра БХД, лідэра «Дыскусійнага клуба 24» **Уладзіміра Рамановіча** (Тэхналагічная акруга № 9). За дзень сабрана каля сотні подпісаў. Як ідзе збор подпісаў, што цікавіць выбаршчыкаў, якія шансы ў хрысціянскіх дэмакратаў – чытайце ў інтэрв’ю з мясцовым лідэрам Уладзімірам Рамановічам і сябрам ягонай ініцыятыўнай групы **Любай Пугаўкай.**

**Як ідзе збор подпісаў**?

**Уладзімір**: У цэлым можна сказаць, што людзі добра ставяцца да працэдуры падпісання. Але былі выпадкі, калі выбаршчыкі лічылі, што паставіць подпіс - гэта ўжо галасаванне.

**Які ўзрост тых, хто падтрымлівае вас?**

**Уладзімір**: Подпісы ставяць людзі і 1920-х гадоў нараджэння, і моладзь, і працоўныя людзі.

**Ці ведаюць людзі, што 25 красавіка выбары мясцовых саветаў, ці будуць яны галасаваць?**

**Люба**: Сёння мы прайшлі прыкладна 250 кватэр і прыкладна 10% не ведалі пра выбары, 15% не пойдуць галасаваць, шмат пыталі пра тое, за каго яшчэ будуць збіраць подпісы.

**Ці ведаюць людзі пра ролю мясцовых саветаў?**

**Уладзімір**: Людзі старэйшага пакалення лічаць, што мясцовыя саветы наогул нічога не вырашаюць. Іх вялікая памылка думаць, што дэпутат савета ідзе працаваць дзеля вялікага заробку.

**Люба**: Выказваліся і такія меркаванні, як «мы выбралі Лукашэнку, і толькі ён усе робіць». Нам канешне прыходзілася тлумачыць, што зараз не выбары прэзідэнта, а мясцовыя. І гэта іншы ўзровень пытанняў.

**Уладзімір**: Нажаль выбаршчыкі блытаюць такія паняцці як «Выканаўчая ўлада» і «Заканадаўчая ўлада» .

**А які настрой пасля першага дня збору подпісаў?**

**Люба**: Сёння мы зразумелі: выбаршчыкам патрэбны кандыдат з актыўнай, грамадзянскай пазіцыяй, малады і разумны чалавек.

**Уладзімір**: Ну мы трохі стаміліся. Але ў нашых планах абыйсці за 20 дзён усю акругу, дзе больш за 6 тысяч выбаршчыкаў і сабраць 2 тысячы (!) подпісаў. У бліжэйшыя дні далучацца яшчэ 5 чалавек з маёй ініцыятыўнай суполкі.



Уладзімір Рамановіч

**Ці будзеце выкарыстоўваць «пікеты» для збора подпісаў?**

Уладзімір: Так. Мы ужо падрыхтавалі 2 пікета, зараз выбіраем больш зручную пляцоўку і праз 1-2 дні пачнем і там збіраць подпісы.

*Інтэрв’ю брала Вікторыя Закірава, прэсавы сакратар «Дыскусійнага клуба 24», Віцебск*

# Вернік, журналіст, спартовец



*Яўген Пацэвіч*

Жэня Пацэвіч – адзін з лідэраў БХД у Гародні, журналіст, грамадскі дзеяч, аматар футболу і проста верны сябар. Ён добра вядомы праз сваю дзейнасць у газэце «Хрысціянская абарона» і інтэрнэт-выданні «Твой стыль». Каб бліжэй пазнаёміцца з Жэняй, я вырашыў узяць у яго інтэрв'ю.

**– Жэня, раскажыце, калі ласка, як Вы вырашылі звязаць свой лёс з палітыкай, з грамадскай дзейнасцю?**

– Непасрэдна такога выбара жыцця не было – усё шло само сабою. Актыўная жыццёвая пазіцыя проста не дазваляла застацца ўбаку ад падзей у грамадскім, палітычным, культурным жыцці краіны. Ты робіш маральны выбар - альбо ты манах, усё «свецкае» турбуе толькі ўскосна, альбо як мінімум цікавішся тым, што здараецца навокал. Заўсёды жыў і слухаў сэрца, якое падказвала быць не абыякавым.

**– Чаму Вы вырашылі стаць сябрам менавіта БХД?**

– Гэта адзіная палітычная сіла, што яднае людзей хрысціянскай маралі . Ёсць свае цікавыя моманты, як ўсюды «залётныя» людзі, але ўсё роўна тут большасць шчырых, светлых людзей. Як да Бога ідзеш не адзін, а ва ўлонні роднай праваслаўнай царквы, якая дапамагае і падказвае – так палітычную адукацыю і веды лепш атрымоўваць не перад тэлебачаннем, а побач з аднадумцамі.

**– Якія жыццёвыя каштоўнасці Вы можаце акрэсліць для сябе як галоўныя?**

– Самая светлае, да чаго можна і трэба ісці - духоўны рост. Больш за гэтай каштоўнасці не можа быць. Ён прадугледжвае максімальнае выкананне той ролі ў надзеі , што на мяне, як і на любога з нас, ускладае Бог. Галоўнае, не забываць звяртацца з малітвай, каб не паблытаць з-за сваёй чалавечай слабасці свае імкненні з Яго.

**– Якія асноўныя праблемы беларускага грамадства Вы бачыце на дадзены момант?**

– Праблемы грамадства перш за ўсё асабістыя. У тым, што нам не хапае адказнасці . Як немагчыма пабудаваць рай на Зямлі , так немагчыма перарабіць кожнага. А беспрацоўе, нізкія заробкі , ды проста дэградацыя – гэта толькі следства. Перш за ўсё - праблема ў нашай павярхоўнасці. Гэта праблема ўнутраная, рэальная. Яе трэба вырашаць. Што тычыцца праблем знешніх, то першая з іх – п'янства, з-за якога разбураюцца сем'і.

**– Якія шляхі вырашэння гэтых праблем Вы бачыце?**

– Шлях адзін - актыўнасць людзей, якім дадзена на сёння разумець больш, і не забываць пры гэтым, што мы нясём да людзей не свой твар, а сваю ідэю. Як кажа айцец Андрэй Кураеў, самыя прыгожыя мудрыя словы не каштуюць нічога ў параўнанні з жывым прыкладам святога жыцця. Так ён кажа пра тое, што калі б побач з ім падчас духоўных лекцыяў знаходзіўся святы чалавек - то казаць нічога не трэба было б. Усе ўсё пабачылі б. А так прыходзіцца прыводзіць лагічныя доказы, казаць зноў і зноў адное і тое ж. Трэба нам жыць і быць прыкладам – вось яно, самае лепшае рашэнне.

*Размаўляў* **Ілля Запаснік**, *Гародня*



УВАГА!

# ГАРАЧЫЯ ТЭЛЕФОНЫ
## мясцовай кампаніі 2010

+ 375 29 5160861 **Павал Севярынец:** рэгіёны, інфармацыя, культура, ідэалёгія, газэта «Крыніца», кампанія «Люблю Беларусь».

+375 29 7635954 **Віталь Рымашэўскі:** Менск, міжнародныя справы, адукацыя, кампанія «Пакаяньне».

+375 29 6512665 **Аляксей Шэін:** «Малітва за Беларусь», газэта «Весьнік», кампанія «Моцная сям’я – моцная Беларусь».

+375 33 6697917 **Лавінія Шарыпкіна**: прэс-сакратар БХД, сайт bchd.info

+375 29 7245156 **Георгій Дзьмітрук:** эканоміка, кампанія «За свабоду веравызнаньня».

+375 29 5018781 **Леанід Скарабагаты:** праваабарона, юрыдычная кансультацыя. Барацьба супраць алькагалізму.

+375 29 7321633 **Дзяніс Кобрусеў**: сакратар Менскай арганізацыі БХД.

+375 29 8616228 **Валянціна Шычко**: рэгіянальны каардынатар, «Беларускі Хрысьціянскі Хіт».

+375 33 6373715 **Любоў Каменева**: Моладзь БХД.

+375 29 5729484 **Ірына Губская:** рэгіянальны аддзел

+375 29 5712611 **Лера Чарнаморцава:** кампанія «Пакаянне», культура, канцэрты

**Праваабаронцы:**
+375 17 2808863 Камітэт «Салідарнасць», **Эніра Браніцкая**
+375 29 6516126 Цэнтр «Вясна», **Уладзімір Лабковіч**

**Цэнтральная Выбарчая Камісія:**
+375 17 2226487 - прававыя пытанні
+375 17 2271903 - прыёмная



### Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту
**220123, г. Мінск, а/с 324**,
ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**
або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб’ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 26 лютага 2010
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.